


# Веcткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
*P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 10(680)**
**Кастрычнік 2022 г.**


# Мітынг на Таймс-сквэр супраць расейскай агрэсіі

У суботу 24 верасьня на Таймс-сквэр што на Мангэтане, Нью-Ёрк, адбыўся мітынг супраць расейскай агрэсіі ва Ўкраіне і ў Беларусі. Акцыя была зарганізаваная Беларускай Асьветніцкай Лігай Амэрыкі (BELA) і Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем (БАЗА) з удзелам прадстаўнікоў Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня" і ўкраінскай грамады Нью-Ёрку.

Мітынг прыпадае на час, калі ў Расеі праводзіцца агульная мабілізацыя насельніцтва ў зьняслаўленае расейскае войска, што, беручы ўдзел у агрэсіі супраць Украіны і ў сапраўднай братабойчай вайне, запляміла сябе злачынствамі супраць мірнага насельніцтва Ўкраіны і супраць палонных, што вядзе абстрэлы і праводзіць разбурэньні жылых дамоў і цывільнай інфраструктуры Ўкраіны, што займаецца гвалтамі й рабункамі на акупаванай тэрыторыі. Скрадзеная расейцамі пральная машына зрабілася сымболем гэтага рабаўнічага войска і гэтай бруднай агрэсіўнай вайны. Наступ Збройных Сілаў Украіны (ЗСУ) на Харкаўшчыне і каляпс расейскага фронту выклікалі патрэбу Крамля абвесьціць "частковую" мабілізацыю. Гэта, у сваю чаргу, стала прычынай масавага выезду з Расеі людзей, якія падпадаюць пад умовы мабілізацыі. Выглядае, што, нягледзячы на падтрымку агрэсіі, шмат расейцаў не гатовыя асабіста браць удзел у ёй і ставіць на кон уласнае жыцьцё. Вайна робіцца непапулярнай у Расеі, і таму пашырэньне і ўзмацненьне санкцыяў супраць Расеі, далучэньне да ціску на яе міжнародных арганізацыяў, а найперш ААН, пашырэньне шэрагу краінаў, што падтрымалі санкцыі – гэта шлях да спыненьня вайны і да забясьпечаньня дзейнай дапамогі Ўкраіне, а таксама і Беларусі, што знаходзіцца пад фактычнай расейскай акупацыяй.

Менавіта дзеля таго, каб прыцягнуць увагу амэрыканскага грамадзтва да спосабаў спыненьня вайны і для таго, каб гэтая вайна не зрабілася "забытай" міжнародным супольніцтвам і амэрыканскімі палітыкамі, была праведзеная акцыя на Таймс-сквэр. Яна адбывалася ў найбольш наведваемай мясьціне гораду, і падчас яе мноства людзей з розных штатаў, што наведваюць Нью-Ёрк, падыходзілі пыталіся пра мэты акцыі й атрымлівалі канкрэтныя і зьмястоўныя адказы. Удзельнікі акцыі раскруцілі вялікую расьцяжку ў нацыянальных беларускіх колерах, лунілі бел-чырвона-белыя і жоўта-блакітныя сьцягі. Удзельнікі трымалі плякаты й карыкатуры, што асуджаюць пуцінскую агрэсію ва Ўкраіне. Мінакам раздаваліся ўлёткі, удзельнікі выгукалі "Перамогу – Украіне!", "Пуціна – у турму!", "Спыніць агрэсію!", а таксама "Жыве Беларусь!" і "Слава Ўкраіне!"

Да акцыі далучылася нават адна з асобаў-заўсёднікаў Таймс-сквэр "Голы Каўбой" – фацэт у майтках з гітарай, што больш за 20 год выступае тут для турыстаў. На акцыі прысутнічалі таксама журналісты і апэратарская група "Голасу Амэрыкі", што бралі ва ўдзельнікаў акцыі інтэрвію адносна матываў іхнага ўдзелу ў акцыі, а таксама іхнага стаўленьня да падзеяў вакол вайны ва Ўкраіне.

**_Віталь ЗАЙКА_**



# 34-я Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі

Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі ёсьць адною з праяваў палітычнай дзейнасьці беларускай дыяспары. Традыцыя правядзеньня сустрэчаў прадстаўнікоў беларускай грамады ЗША і Канады бярэ пачатак ад 1952 году, калі амэрыканскія й канадыйскія беларусы сабраліся ў ліпені месяцы (4-6 ліпеня 1952 г.) на сяброўскай сустрэчы каля Ніягарскага вадаспаду, дзеля таго, каб абмеркаваць і ўзгодніць свае пляны, згадаць мінулую дзейнасьць і адзначыць значныя юбілеі й гадавіны важных падзеяў, што зьвязаныя зь Беларусьсю і беларусамі. Стала традыцыяй праводзіць сустрэчы штодва гады, на ўікэнд перад Днём Працы, які выпадае на першы панядзелак верасьня. Кожная сустрэча стала мець свой палітычны або культурна-гістарычны дэвіз або тэму. Пасьля здабыцьця незалежнасьці на Сустрэчы рэгулярна запрашаліся культурніцкія й палітычныя дзеячы зь Беларусі. Арганізатарамі Сустрэчаў зьяўляюцца Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА) і Згуртаваньне Беларусаў Канады (ЗБК).

Сёлета Сустрэча прайшла 3-4 верасьня ў Беларускім Цэнтры ў Саўт-Рыверы (Нью-Джэрзі) з удзелам беларускіх ініцыятываў, арганізацыяў і суполак ЗША і Канады. Яна сабрала беларусаў ад Флёрыды да Таронта, якія прыехалі, каб пабачыць сяброў і пазнаёміцца з новымі актывістамі, абмяняцца думкамі й ідэямі.

Адкрыў Сустрэчу сямейны гурт Kozak Family Ethno Trio у складзе Валянціны Пархоменкі, Алеся Казака і Вольгі Казак-Анлар, выканаўшы гімн ЗША і духовы гімн Беларусі "Магутны Божа".

На працягу абодвух дзён Сустрэчы яе вядоўцамі былі сп. Міхась Чаропка і сп-ня Натальля Федарэнка (прадстаўнікі БАЗА), якія прывіталі прысутных, пажадалі плённай імпрэзы і нагадалі, што падобныя Сустрэчы традыцыйна ладзяцца раз на два гады, але ў выніку пандэміі каранавірусу сустрэча ў 2020 годзе не праводзілася, а папярэдняя, 33-я, адбылася ў 2018 годзе ў Брукліне, Нью-Ёрк.

Нажаль, некаторыя з запрошаных на імпрэзу гасьцей не змаглі на ёй асабіста прысутнічаць, і даслалі свае звароты. Удзельнікі й госьці прагледзелі відэазварот-прывітаньне ад старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі сп-ні Івонкі Сурвіла, у якім яна нагадала, што Сустрэчы пачалі ладзіцца беларусамі Паўночнай Амэрыкі, каб выказаць сваю падтрымку паняволенай Бацькаўшчыне і пацьвердзіць вернасьць ідэалам 25 Сакавіка. Яна таксама падкрэсьліла неабходнасьць прыцягваць маладую хвалю эміграцыі да стваральнай дзейнасьці на беларускай ніве і нагадала пра небясьпеку расейскай агрэсіі, якая ўвесь застаецца актуальнай для Беларусі.

Затым прысутных праз свой аўдыёзварот прывітаў Сташыня Беларускага Народнага Фронту і Партыі КХП-БНФ, кіраўнік руху "Вольная Беларусь" сп. Зянон Пазьняк. Ён распавёў пра бягучы момант, пра ўнутраную і зьнешнюю акупацыю Беларусі, пра дзейнасьць акупацыйных карных ворганаў. Ён нагадаў лёзунг змаганьня – "Беларусь перад усім" і падкрэсьліў неабходнасьць стварэньня суполак нацянальна-вызвольнага руху.

Было зачытанае прывітаньне кіраўніцы Супольнасьці Беларусаў Сьвету (СБС) "Бацькаўшчына" Алены Макоўскай і старшыні Рады СБС "Бацькаўшчына" Ніны Шыдлоўскай. Яны прывіталі ўдзельнікаў Сустрэчы і пажадалі ім плённай працы, а таксама выказалі спадзеў адносна аднаўленьня супрацоўніцтва, якое заўсёды было паміж "Бацькаўшчынай" і беларускімі арганізацыямі замежжа.

Да прысутных зьвярнулася сп-ня Алена Лявончанка, старшыня ЗБК, якая ў сваёй прамове нагадала, што гэтая Сустрэча – юбілейная: "Першая Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі адбылася ля Ніагарскага вадаспаду на канадыйскім баку дзякуючы намаганьням Вінцэнта Жук-Грышкевіча, аднаго са старшыняў БНР. Вельмі цешыць, што гэтая традыцыя ўжо працягваецца 70 год. І самая галоўная каштоўнасьць людзей, якія сабраліся тут – гэта неабыякавасьць да Беларусі. Бо павага і любоў да Беларусі застаецца на ўсё жыцьцё! І нам усім патрэбная перамога".

Затым выступіў сп. Юрась Беленькі, прадстаўнік беларусаў Мінэсоты, колішні дэпутат Вярхоўнага Савету XII скліканьня, таго парлямэнту, які абвесьціў Незалежнасьць Беларусі. Ён нагадаў прысутным, што менавіта беларуская грамада на чужыне ў свой час захавала нашыя нацыянальныя сымбалі – Бел-чырвона-белы сьцяг і герб "Пагоня", што адрадзіліся ў час, калі ў 1991 годзе Беларусь здабыла незалежнасьць. Сп. Беленькі таксама распавёў аб значнай ролі дыяспары ў захаваньні і аднаўленьні самасьведамасьці беларусаў. "У 1991 годзе мне быў 31 год. Бальшыня апазыцыі Беларускага Народнага Фронту тады былі маладыя. Але мы ўжо былі ўзбагачаныя прыкладам трыманьня сымбаляў нацыянальнага Адраджэньня. Бальшыня тагачаснага Вярхоўнага Савету ня ведала пра БНР, Вялікае Княства Літоўскае...



заканчэньне на бачыне 4

# Атрутная прывабнасьць дэзынфармацыі

**Агульная ацэнка.** Дэзінфармацыя выкарыстоўвае эмоцыі і грунтуецца на пачуцьцях. Дэзінфарматары імкнуцца зразумець і злавіць агульнае пачуцьцё, на якое можа адклікнуцца пэўная група людзей, і тады ўпуск дэзінфармацыі ў грамадзтва – справа тэхнікі і магчымасьцяў сродкаў распаўсюду інфармацыі.

Дэзінфармацыя аб адносінах да асобаў, да падзей, да эміграцыі, да палітычнай зьявы і г. д. пабудавана на такім прынцыпе.

**Канкрэтны прыклад.** У артыкуле "Пра атаку на Сахашчыка" я рацыянальна па пунктах растлумачыў сутнасьць агентурнай атакі і становішча, якое датычыцца падпалкоўніка Сахашчыка.

Потым я паглядзеў камэнтары ў Сеціве (якіх даволі шмат) і ўбачыў тыповую ў такіх выпадках сацыяльную карціну. Уражаньне, што ніхто не чытаў тэкст. І што парадаксальна (але на справе тыпова) – практычна, усе камэнтатары працуюць у парадыгме дэзінфарматараў, абараняюць і ўмацоўваюць дэзінфармацыю. Такі псыхалягічны перакос.

Я заўважыў толькі адну асобу (пэўна іх было і болей), якая засумнявалася ў сэнсе ўзьнятага скандалу, задаючы пытаньне: навошта гэты вэрхал пра пашпарты, калі тут усё відавочна і проста. Дакладна так. Тут проста, і ўсё напісана ў артыкуле. Паўтару яшчэ прасьцей.

Беларусы цяпер ствараюць свае вайсковыя аддзелы і змагаюцца з расейскім агрэсарам у шэрагах украінскай арміі. Для паўнавартасных вайсковых аддзелаў патрэбныя прафэсійна падрыхтаваныя ваяры, сяржанты і, што важна, – афіцэры (якія цяпер у беларускіх аддзелах запатрабаваныя). Падпалкоўнік Валеры Сахашчык – ваенны прафэсіянал высокага клясу, які можа і згодны такую падрыхтоўку вайскоўцаў ажыцьцявіць. Але яму трэба падрыхтаваць палітычную базу і даць паўнамоцтвы. Тут закладзены нашыя нацыянальныя інтарэсы.

Валеры Сахашчык не замешаны ў злачынствах, не парушаў закон і выйшаў прэч з рэжымнай сыстэмы. Сыстэма перасьледуе яго ня толькі за адыход, ня толькі дзеля помсты, але галоўным чынам, каб не дапусьціць той вайсковай справы, якую ён можа рабіць для вольнай Беларусі.

Апэрацыя дыскрэдытацыі задумана на шырокую нагу. Нават ва ўкраінскіх крыніцах пачалі пісаць пра Сахашчыка, прыпісваючы яму ў дадатак яшчэ і службу ў ГРУ (што няпраўда).

Дэзінфармацыя супраць Сахашчыка пабудавана на выкарыстаньні эмоцыяў беларусаў, якія належаць да антырэжымных нацыянальна-сьведамых сілаў. Адбыўся ўкід эмацыйна раздражняючай (па сутнасьці – палітычна нікчэмнай) фактале́гіі ў беларускае нацыянальна арыентаванае асяродзьдзе. Беларускае асяродзьдзе (пры дапамозе пэўных суб'ектаў) праглынула нажыўку. Пачаўся скандал у Сеціве і самаедства на ўзроўні нацыянальна-занепакоенай сьвядомасьці.

На ўзроўні гэтай сьвядомасьці істотнае толькі адно пытаньне: ці можна давяраць падпалкоўніку Сахашчыку. Гарантыяў на ўсё жыцьцё ніхто даць ня можа (бо жыцьцё мяняецца). Але ўлічваючы сытуацыйнае становішча – так. Сытуацыя, якая склалася, паказвае, што чалавек, які, разумеючы небясьпеку для сваёй асобы, публічна парваў з сыстэмай, кіруючыся здаровым сэнсам, адказнасьцю і пачуцьцём справядлівасьці, такі чалавек, стаўшы на антыакупацыйныя антырасейскія пазыцыі, будзе выконваць задачы, дзеля якіх пайшоў на канфлікт з ўладным рэжымам. Нават з прагматычнага гледзішча сытуацыя даволі тыповая.

**Стан у сучаснасьці.** Дэзінфармацыя цяпер стала вельмі небясьпечнай зьявай у сувязі з усеагульным доступам і глябалізацыяй сродкаў інфармацыі. Зьмяшаньне ў галовах людзей стала прагназуемым і кіруемым станам.

У першай палове XX ст. лідэрам дэзінфармацыі была Нямеччына (Гёбэльс). За Нямеччынай ішоў Савецкі Саюз. Цяпер адзінаасобным і непакананым лідэрам ілжы і маніпулятыўнай інфармацыі зьяўляецца Расея. Яе разбуральныя дасягненьні ў дэзінфармацыі ўражваюць. Заходні сьвет рэальна мала што можа супрацьпаставіць расейскай дэзінфармацыі і пакуль што ў гэтым цярпіць паразу.

Беларусы ў выніку акупацыйных абставінаў цалкам пакрыты расейскай дэзінфармацыйнай палітыкай, якая (па меры ўдасканаленьня тэхналёгіі) уплывае нават на беларускую эміграцыю.

**Асаблівасьць канфлікту.** Супрацьстаяць дэзінфармацыі і хлусьні ў цяперашнім інфармацыйным соцыюме цяжка па двух прычынах. Дэзінфармацыя распаўсюджваецца імгненна і віртуальна (асацыяльна, без кантакту), што зьніжае працэс абмеркаваньня, крытыкі і праверкі.

Але галоўнае ў тым, што ілжа распаўсюджваецца хутчэй, чым праўда, выклікае давер, бо арыентавана і ўспрымаецца праз эмоцыі, пачуцьці і страсьці чалавека, у той час калі праўда даходзіць праз рацыё, думкі і здаровы сэнс, што вымагае часу і асэнсаваньня. Прытым ілжа (дэзінфармацыя) заўсёды атакуе, таму бяжыць першай.

Канфлікт у соцыюме паміж дэзінфармаванай асобай і асобай са здаровым сэнсам часта адбываецца на ўзроўні двух маналёгаў, дзе адна асоба ня чуе другую, а другая – не разумее першую.

Мы, беларусы, такое назіраем усьцяж і даўно, і ўсяму таму ёсьць прычыны.

**Стратэгія ёсьць.** У сьвеце яшчэ няма ўніфікаванага падыходу, як змагацца з дэзінфармацыйным злом, што апаноўвае нашу інфармацыйную цывілізацыю. Тысячы людзей чакалі канца сьвету ў 2012 годзе, іншыя перакананыя, што Зямля плоская, што Зямлю апанавалі касьміты з другіх плянэт і т. п. Тут – шырокі расход разбурэньня сьвядомасьці.

Тым часам дэзінфармацыйная атака на Беларусь зыходзіць толькі з Расеі і падпарадкавана адной парадыгме: сацыяльна, духоўна, культурна і мэнтальна ліквідаваць беларускую нацыю і паглынуць яе ў склад расейскага каланіяльна-імпэрскага арганізму.

Але на ўніфікаваную стратэгію расейскай дэзінфармацыі ў беларусаў аб'ектыўна існуе ўніфікаваная абарона, якую трэба скарыстаць. Гэтай абаронай ёсьць дэрусіфікацыя, практычнае вяртаньне да беларускай мовы, да нацыянальнай сьведамасьці, і да нацыянальных каштоўнасьцяў.

Русіфікаванае грамадзтва ёсьць нацыянальна асьлепленае грамадзтва, людзі трацяць нацыянальны розум і здаровы сэнс, ня могуць супроцьстаяць антынацыянальнай ілжы.

Тым часам у выніку дэрусіфікацыі да беларуса вяртаецца ягоны здаровы рацыянальны сэнс, усьведамленьне сябе нацыянальнай асобай у сваёй нацыянальнай сям'і, зьяўляецца адказнасьць за лёс нацыі.

Гісторыя эўрапейскіх народаў тое пацьвярджае, а прыклад Украіны, якая з прычыны расейскай агрэсіі рашуча вярнулася да ўкраінскай мовы і да ўкраінскіх каштоўнасьцяў, – гэты прыклад разьвіваецца ў нас на вачах. Расейская дэзінфармацыя правальваецца ва Ўкраіне і адэкватна ацэньваецца ў нацыянальна адроджаным украінскім соцыюме.

**Зброя ў руках.** Па лініі "русіфікацыя-дэрусіфікацыя" – вось ужо два стагодзьдзі то гарыць, то тлее акупацыйны беларуска-расейскі цывілізацыйны канфлікт (па-праўдзе – вайна).

Побач з генацыдам, расстрэламі і рэпрэсіямі маскоўская дэзінфармацыя, бадай, ці ні найбольш разбуральная зброя, якую практыкуюць расейцы супраць беларусаў. Масава ўжытая, гэтая зброя пазбаўляе нацыю магчымасьці дзейснага супраціву і часам бывае атрутна прывабнай сваёй хлусьнёй ды падладжваньнем пад сьляпыя зьбянтэжаныя адчуваньні.

Пара масава браць у рукі нашу нацыянальную зброю – нашу Беларускую мову, наш народны розум і нашу нацыянальную годнасьць. Прынамсі, за мяжой, дзе тое адкрыта можна рабіць.

Падымайма высака нашу Беларускую мову. Хай лунае яна, як сьвяты наш Бел-Чырвона-Белы Беларускі Сьцяг. Перамога будзе.

*19 верасень 2022 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

# 34-я Сустрэча Беларусаў Паўн. Амэрыкі

*заканчэньне з бачыны 2*



Людзі на гэтым баку акіяну зрабілі важную рэч, каб адрадзілася незалежная Беларусь. Сёньня тыя хто тут, таксама павінны змагацца за Беларусь".

Затым прамаўлялі прадстаўнікі маладой дыяспары, сярод іх сябры Асацыяцыі Беларусаў Амэрыкі (АБА): Жана Чарняўская (Belarus Freedom Forum, Суполка Беларусаў Чыкага), Яўген Сокалаў (Беларусы Бостану і Новай Англіі), Піліп Гаўрышаў (стваральнік INeedHelpBY, Флёрыда), Сяржук Шаліга і Глеб Івашкевіч (Belarus Freedom, Філядэльфія), старшыня АБА Надзея Нортан і Наста Хадкевіч (Беларусы Сан-Францыска і Бэй Эрыі) ды іншыя.

У сваім выступе старшыня АБА спня Надзея Нортан сказала: "Дзякую ўсім беларускам Амэрыкі, якія далучаюцца да беларускага руху. Гэтага б не было без БАЗА і ЗБК. Нават свой Статут мы пісалі на аснове й з дазволу БАЗА. Для нас важна пераемнасьць, сувязь генэрацый. Жыве Беларусь!"

Сакратар галоўнай Управы БАЗА Міхал Чаропка ў сваёй прамове-справаздачы коратка распавёў пра дзейнасьць БАЗА ў Амэрыцы, пэтыцыі ў ААН, распрацоўку разнастайных дакумэнтаў. Таксама ён закрануў тэму новага сайту і новага фармату газэты "Беларус".

Вядоўца Натальля Федарэнка згадала пра Каардынацыйны Цэнтр дапамогі беларускім ваярам ва Ўкраіне, які быў утвораны пры катэдральным саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, і ягоную інтэнсіўную дзейнасьць.

Каардынатар Цэнтру Андрусь Дундукоў прапанаваў хвілінай маўчаньня ўшанаваць памяць 13 загінулых ва Ўкраіне беларускіх вояроў. Таксама Андрусь распавёў пра маштабы дапамогі беларускім дабраахвотнікам, супрацу з эміграцыйнымі суполкамі, фінансавыя зборы і закуп абсталяваньня, лагістычныя ланцугі. Каардынатар выказаў падзяку паліцыі Нью-Ёрку за дапамогу ў набыцьці мэдсродкаў.

Выступілі таксама Алесь Кот (ЗБК, сябра Рады БНР), Павал Куцавол (Human Rights Foundation), Зьміцер Левіт (вэтэран амэрыканскага войска). Гэта былі далёка ня ўсе выступы, бо кожны жадаючы мог узяць слова.

Таксама ў сустрэчы ўзяў удзел старшыня Вашынгтонскага аддзелу БАЗА Яўген Барысевіч.

Першы дзень імпрэзы быў адзначаны цудоўным канцэртам, у якім бралі ўдзел ужо ўзгаданы Kozak Family Ethno Trio, а таксама Зісл Сляповіч (клезьмер-кларнэтыст, саксафаніст, сьпявак на ідыш, кампазытар), Надзя Чэчэт (сьпявачка) і Яўген Магаліф (вядомы беларускі кампазытар). Пад сьпевы музыкаў можна было і пасумаваць аб беларускай долі і весела патанчыць у карагодзе, чым скарысталіся прысутныя.

Кульмінацыяй канцэртнай часткі быў пэрформанс "Чараўніца", у якім 9 прыгажунь дэманстравалі сучасныя беларускія сукенкі, танцавалі і вадзілі карагоды паміж гасьцей. Аўтар праекту Юлія Калбыка прыехала адмыслова з Чыкага. Мадэлі – прыгажуні зь Нью-Джэрзі ды Філядэльфіі.

Другі дзень Сустрэчы пачаўся з набажэнства ў царкве Сьв. Жыровіцкае Іконы Божае Маці ў Гайленд-Парку і царкве Сьв. Эўфрасіньні Полацкай ў Саўт-Рыверы. Яны былі прымеркаваныя да 100-годзьдзя Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. У Гайленд-Парку служэньне прайшло пад кіраўніцтвам галавы БАПЦ архіяпіскапа Сьвятаслава.

А 2-й гадзіне папаўдні пачалася дыскусія за круглым сталом "Новыя мэты і задачы беларускай дыяспары Паўночнай Амэрыкі ва ўмовах акупацыі Беларусі й вайны ва Ўкраіне". На ім былі прынятыя агульныя рашэньні й дакумэнты, якія будуць накіраваныя да кіраўніцтва ЗША, Канады і ААН.

На Сустрэчы беларусы прадавалі кнігі, сувэніры, цішоткі, заробленыя кошты зь якіх пайдуць на падтрымку беларускіх дабраахвотнікаў ва Ўкраіне.

**Віталь ЗАЙКА**

**Уплаты ў Згуртаваньне**
**Складкі й ахвяраваньні:**

**Ю. Мятлюк ..............60**
**А. Пазьняк ...............60**

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне "Пагоня" шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня "Пагоня" *Viktar Yedzinovich.***

## Абвестка

Сходы Згуртаваньня "Пагоня", якія звычайна адбываліся ў другую суботу кожнага месяца, часова (да адмены ўладамі г. Нью-Ёрку забароны на правядзеньне масавых мерапрыемстваў) праходзіць ня будуць.

-------------------

*Аб імпрэзах, ладжаных "Пагоняй", можна даведацца наведаўшы старонку арганізацыі ў Фэйсбуку:* ***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні* :**

**Ю. Мятлюк ................30**
**А. Пазьняк ................30**

**Усім шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка "Пагоні" **Viktar Yedzinovich**.*